❑ *«Шчодрасць» беларускіх мытнікаў абярнулася для дзяржавы стратай трыльёнаў рублёў.*

1-я стар.

❑ *Затрыманы «тэрарыст», які пагражаў узарваць Дом урада ў Мінску.*

1-я стар.

❑ *Сотні чалавек гінуць на беларускіх прадпрыемствах штогод з-за дрэнна арганізаваных умоў працы.*

2-я стар.


# ЗВЯЗДА

13 верасня 1996 г. серада, № 226 (23029)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

*ЦЭНЫ*

### У Беларусі зрушылі з месца цэны на нафту і нафтапрадукты

**З 10 верасня ў Беларусі ў сярэднім на 14 працэнтаў узняліся цэны на нафту і нафтапрадукты.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення эканомікі і фінансаў канцэрна «Белнафтапрадукт» Анатоль Філінаў, гэтая мера была выклікана працэсамі індэксацыі цэн і зніжэннем абменнага курса беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША.

Як вядома, апошні раз цэны на нафту і нафтапрадукты мяняліся ў краіне 1 лютага бягучага года (калі была ўстаноўлена цана адной тоны нафты ў памеры 80 долараў) і 17 красавіка (тады была праведзена індэксацыя на 5,2 працэнта). У выніку паступовага падзення курса беларускага рубля кошт адной тоны нафты ўсталявалася па стану на 10 верасня ў памеры 66,5 долара ЗША, у той час як свабодная яе цана ўжо дасягала 92—94 долараў. Праведзенае павышэнне «вярнула» нафце колішнюю цану ў валютным вымярэнні — 80 «зялёных» за адну тону. Зразумела, затое істотна змянілася цана ў беларускіх «зайчыках».

Як паведаміў Анатоль Васільевіч, на сённяшні дзень у выніку павышэння цэн на нафту на аўтазаправачных станцыях (АЗС) склаліся наступныя фіксаваныя (для інвалідаў, хуткай дапамогі, міліцыі) цэны: за літр аўтамабільнага бензіну маркі А-76 — 2900 рублёў, АІ-92 — 3100 рублёў, за адзін літр дызельнага паліва — 2200 рублёў. Зразумела, для астатніх пакупнікоў цэны на паліва на АЗС іншыя. Напрыклад, сталічная аўтазаправачная станцыя № 2 на вуліцы Брылеўскай прапаноўвае адзін літр бензіну маркі АІ-98 па цане 6700 рублёў, АІ-92 — 4500 рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### Доўг Беларусі за энерганосьбіты зніжаецца марудна

**Як стала вядома БелаПАН, па стану на 29 жніўня гэтага года доўг Беларусі за расійскі газ склаў 5 трлн. 510 млрд. 981 млн. беларускіх рублёў (на 4 ліпеня 1996 г. — 5 трлн. 246 млрд. 210 млн. руб.). За расійскі мазут Беларусь павінна 238 млрд. 310 млн. рублёў (на 4 ліпеня — 208 млрд. 198 млн. руб.).**

Доўг Беларусі за электраэнергію Расіі складае 60 млрд. 849 млн. рублёў (на 4 ліпеня 1996 г. — 121 млрд. 438 млн.) і Літве — 24 млрд. 927 млн. рублёў (на 4 ліпеня — 23 млрд. 635 млн. руб.). Усесаюзнай знешнегандлёвай фірме «Энергія» запазычанасць Беларусі складае 275 млрд. 665 млн. рублёў (на 4 ліпеня 1996 г. — 264 млрд. 602 млн. руб.).

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

*Ходзяць чуткі, што...*

### ...у Мінску не хапае пасажырскага транспарту

**Напэўна многія мінчане, ды і госці сталіцы заўважылі, што апошнімі днямі ў горадзе нібыта стала больш цесна, чым звычайна, у грамадскім транспарце. Нават у метро ў далёка не «пікавы» час людзей столькі, як у прыгараднай электрычцы падчас дачнага сезона. Ці не паменела ў Мінску маршрутаў грамадскага транспарту?**

Як адказалі на гэтае пытанне ў Вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, ніякага скарачэння колькасці маршрутаў пасажырскага транспарту апошнім часам у горадзе не было. Наогул, такія меры з той ці іншай нагоды прымаліся апошні раз яшчэ вясной. На сённяшні дзень у Мінску дзейнічаюць 128 аўтобусных пасажырскіх маршрутаў, 57 тралейбусных і 10 — трамвайных. Наплыў людзей у грамадскім транспарце апошнім часам, на думку спецыялістаў упраўлення, тлумачыцца, хутчэй за ўсё, масавым выхадам грамадзян з летніх водпускаў. Безумоўна, не абышлося тут і без «выбрыкаў» састарэлага парка машын, чые «капрызы» ў выглядзе шматлікіх паломак ужо добра вядомы гараджанам.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### Да ведама дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Чарговае пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адбудзецца 17 верасня 1996 года ў 16 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### Камень, які гаворыць: «Прабачце...»

**Год назад, 12 верасня 1995 года, усю Беларусь узрушыла паведамленне аб трагедыі, якая здарылася каля горада Бяроза на Брэстчыне: збіты паветраны шар з двума грамадзянамі ЗША. Загінулі паветраплавальнікі Джон Сцюарт Джэрвіс і Алан Бернард Дрэнкел. Беларусь, якая толькі пачала набываць міжнародны аўтарытэт як незалежная дзяржава, апынулася ў непрыемным становішчы.**

Падобна, што сумная «слава» свайго горада жыхарам Бярозы і дагэтуль вярэдзіць душу. У гадавіну здарэння на месцы, дзе загінулі людзі, некалькі гараджан пахавалі рэшткі карзіны і шара, якія яшчэ там засталіся. На насыпе замацавалі вялікі камень, дзе бронзай свецяцца крыжык, дата і надпіс: «Прабачце...» Ля гэтага помніка, што стаіць у ляску ля дачнага пасёлка паблізу вёскі Круглае, ужо з'явіліся кветкі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»*

### «Чорны кот», які пагражаў узарваць Дом урада, затрыманы

**Як паведамляла «Звязда», 10 верасня каля сцен будынка Дома ўрада была знойдзена запіска з папярэджаннем пра быццам бы закладзеную ў Доме ўрада бомбу вялікай магутнасці. «Добразычлівец» падпісаўся псеўданімам «Чорны кот».**

Праведзеныя мерапрыемствы па пошуку выбуховага ўстройства вынікаў не далі. І вось сенсацыйнае паведамленне: «Чорны кот» злоўлены. Затрыманы падчас спробы падкласці зноў на тое ж месца (правае крыло варот) чарговае паведамленне. Як ужо потым сказаў нашаму карэспандэнту начальнік Галоўнага ўпраўлення аховы пры Прэзідэнце РБ Міхаіл Цесавец, пад кіраўніцтвам якога вяліся пошукі бомбы, «бамбіста» чакалі і вельмі спадзяваліся, што ён зноў заявіць аб сабе. Так і атрымалася. Ім аказаўся жыхар горада Мінска, 1963 г. нараджэння, А. Львуцін. Пры сабе ён меў яшчэ адну запіску, а з дакументаў — пасведчанне інваліда І групы. Са слоў маці грамадзяніна Львуціна, яе сын стаіць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры і неаднаразова праходзіў лячэнне ў псіхіятрычнай бальніцы. Калі карэспандэнт нашай газеты прыехаў у Маскоўскі РАУС, яго ўвагу прыцягнула незвычайная для такой установы колькасць людзей у белых халатах. Як потым высветлілася, гэта былі ўрачы псіхіятрычнай клінікі, што а палове пятай гадзіны вечара і забралі грамадзяніна Львуціна ў псіхіятрычную бальніцу «Навінкі». Па словах супрацоўнікаў райаддзела, узяць якія б там ні было паказанні ў гэтага чалавека немагчыма. Не ўдалося атрымаць з яго вуснаў і звязных тлумачэнняў тэксту другой запіскі.

**Сяргей ПРОТАС.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 12 верасня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 18200<br>5420 | 18400<br>5500 | 12000 | 12400 | 3.30 | 3.40 | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 18000 | | 11900 | | 3.20 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 17900 | 18400 | 11800 | 12200 | 3.20 | 3.35 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 18000<br>5410 | 18414<br>5500 | 12100 | 12372 | 3.30 | 3.42 | 331-917 |
| АКБ «Аб'яднаны капітал» | 18000 | 18500 | 11900 | 12300 | 3.15 | 3.30 | 394-092 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 18100 | 18600 | 12150 | 12375 | 3.22 | 3.46 | 342-242 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14550 | | 9678.71 | | 2.71 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 6361 | | 3578.29 | | 100 бел. р. 29.70 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

## АДКРЫТЫ СПЕЦЫЯЛЬНЫ РАХУНАК

**Па даручэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі адкрыты спецыяльны рахунак у Міністэрстве фінансаў для падтрымкі правядзення 7 лістапада 1996 г. рэспубліканскага рэферэндуму па ўсенароднаму прыняццю новай рэдакцыі Канстытуцыі.**

Як паведаміла Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, гэта рашэнне Аляксандра Лукашэнкі абумоўлена шматлікімі зваротамі грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і камерцыйных структур з просьбай добраахвотнай грамадскай падтрымкі правядзення ўсенароднага рэферэндуму.

На спецыяльны рахунак «Рэферэндум-96» ужо выказалі жаданне пералічыць пэўныя сродкі акцыянернае таварыства «Мінскі маргарынавы завод», калгасы «Перамога» і «Крутагор'е» Крычаўскага і Дзяржынскага раёнаў, Рэспубліканскі грамадскі фонд садзейнічання рэформам, закрытае акцыянернае таварыства «Кантагруп» і іншыя.

Аляксандр Лукашэнка даў распараджэнне стварыць грамадскую камісію па кантролю і праверцы выкарыстання грамадскіх сродкаў. Работа камісіі будзе мець выключна адкрыты характар. Прэзідэнт запатрабаваў, каб прынцып сумленнай і шчырай добраахвотнай падтрымкі рэферэндуму захоўваўся ўсюды. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што пералічваць сродкі могуць толькі тыя вытворчыя і працоўныя калектывы, якія працуюць з прыбыткам, без затрымак у выплаце зарплаты.

Аляксандр Лукашэнка зноў падкрэсліў, што ўсенародны рэферэндум 7 лістапада гэтага года пройдзе без затрат хоць бы аднаго рубля з дзяржаўнага бюджэту.

Нумар спецыяльнага рахунку «Рэферэндум-96» Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь у Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь 3780900000007, код банка № 042, код плацяжу № 09000. Тэлефон для даведак: (0172) 222-33-22

**БЕЛТА.**

## КАМПАНІЯ «МАКДОНАЛЬДС» ВЕРЫЦЬ У НАШУ СВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ І МАЕ НАМЕР «ПРАПІСАЦЦА» Ў БЕЛАРУСІ НАДОЎГА

**Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка прыняў 12 верасня прэзідэнта кампаніі «Макдональдс» у Цэнтральнай Еўропе Андрэаса Хакера і прадстаўнікоў замежнага прадпрыемства «Рэстараны Макдональдса» ў Беларусі.**

«Гэта, відаць, добры знак, калі вядучыя і вельмі багатыя фірмы прыходзяць і гатовы працаваць на нашым рынку», — сказаў, ацэньваючы ўклад кампаніі ў эканоміку краіны, кіраўнік дзяржавы. Сёння міжнародная карпарацыя «Макдональдс» мае амаль дваццаць тысяч рэстаранаў, размешчаных практычна на ўсіх кантынентах.

Наша рэспубліка — сотая краіна ў свеце, жыхары якой змогуць паспытаць фірменны гамбургер. І гэта не выпадкова. Як паведаміла карэспандэнту БЕЛТА дырэктар названага замежнага прадпрыемства пані Карэн Бішап, каб вызначыць уладальніка парадкавага нумара 100, праводзіўся спецыяльны тэндэр, у якім прымалі ўдзел Украіна, Балгарыя, Індыя. Але выйграла яго Беларусь як дзяржава, размешчаная ў самым цэнтры Еўропы.

Згодна з праектам, ужо ў пачатку снежня ў Мінску пачнуць работу адразу тры рэстараны. У перспектыве, разлічанай на пяць гадоў, прадугледжваецца будаўніцтва 60 аналагічных пунктаў хуткага харчавання. Наступная «высадка» «Макдональдса» намечана ў Брэсце і Гомелі. Па ўсёй рэспубліцы раскінецца сетка рэстаранаў, што дасць магчымасць стварыць новыя рабочыя месцы і выгадныя кантракты для многіх прадпрыемстваў сферы паслуг.

Разам з гэтым эканамічна выгадным для рэспублікі праектам — на сённяшні дзень кампанія ўклала ў яго каля 9 мільёнаў долараў — плануецца і шэраг дабрачынных акцый. У прыватнасці, адзначыла Карэн Бішап, прадугледжваецца выдзеліць некалькі мільёнаў долараў на лячэнне і аздараўленне хворых дзяцей. Акрамя таго, для вучняў мінскіх школ, размешчаных у раёне макдональдскіх пунктаў хуткага абслугоўвання, на працягу месяца будуць арганізаваны бясплатныя снеданні.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## НА ПАРАЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ У АТЛАНЦЕ НАШЫ СПАРТСМЕНЫ ЯШЧЭ РАЗ ДАКАЗАЛІ, ШТО НЕАДОЛЬНЫХ БАР'ЕРАЎ НЕ БЫВАЕ

Непахісную сілу духу, мужнасць і мэтанакіраванасць прадэманстравала нацыянальная зборная каманда Беларусі на Паралімпійскіх гульнях у Атланце. Трынаццаць узнагарод прывезлі нашы спартсмены-інваліды з ЗША: тры залатыя, тры сярэбраныя і сем бронзавых медалёў.

— Вы дастойна прадставілі Радзіму на сусветных гульнях у Атланце. За гэта вам вялікі дзякуй! Беларусь ганарыцца вашым спартыўным майстэрствам, і ведайце: дзяржава ў даўгу перад вамі, — сказаў 12 верасня на сустрэчы з удзельнікамі паралімпійскіх гульняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. — Аднак цяпер становішча зменіцца. Я абяцаю вам, што спартсменам-інвалідам будуць створаны максімальныя ўмовы для таго, каб яны ні ў чым не адчувалі сябе ўшчэмленымі і каб на чарговых гульнях у Сіднэі наша каманда была ўдвая больш прадстаўнічай.

Але не ўсё бязвоблачна ў жыцці спарстменаў-інвалідаў. Часта ім не хапае простага чалавечага разумення і спагады, не кажучы ўжо аб жыццёвых цяжкасцях. Прэзідэнт уважліва выслухаў іх просьбы і пажаданні. Ён абяцаў сваё садзейнічанне ў вырашэнні бытавых і жыллёвых праблем паралімпійцаў, разам з імі парадаваўся стварэнню ў рэспубліцы асобай арганізацыі — Паралімпійскага камітэта. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што сваімі спартыўнымі перамогамі і асабістай мужнасцю яны будуць садзейнічаць умацаванню маральнага духу маладых людзей, якія па волі лёсу апынуліся ў цяжкіх жыццёвых умовах, і заклічуць іх на спартыўныя пляцоўкі, каб весці незалежны, нармальны спосаб жыцця.

Завяршаючы сустрэчу, Аляксандр Лукашэнка ад усяго сэрца пажадаў паралімпійцам здароўя і новых спартыўных дасягненняў.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## *Адным сказам*

● Колькасць мужчын і жанчын, якім у верасні-кастрычніку прадастаўлены **бясплатны праезд** на прыгарадным чыгуначным транспарце, складае **каля 2,5 мільёна чалавек.**

● Нядаўна праведзеныя **даследаванні сведчаць** аб тым, што спажыванне вады з залішнім утрыманнем хлору ў 1,5—2 разы павялічваюць **рызыку захворвання ракам.**

● У тавараабароце Беларусі ўстойліва **расце ўдзельная вага неарганізаванага рынку**: так, у 1995 годзе яна склала 17,2 працэнта, а за сем месяцаў бягучага — 21,6 працэнта.

● **Стратнасць** чыгуначных мясцовых пасажырскіх перавозак за сем месяцаў бягучага года склала **131,5 мільярда рублёў,** прыгарадных — **397 мільярдаў.**

● За сем месяцаў бягучага года **ў спісе даўжнікоў** па зарплаце **адсутнічаюць** такія інстытуты, як банкі, апараты органаў дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання, судовыя і юрыдычныя ўстановы.

● Да канца гэтага года ў сталіцы рэспублікі павінна быць **прыватызавана 80 працэнтаў** аб'ектаў камунальнай уласнасці.

● Аўстралійскія вучоныя зрабілі **адкрыццё,** якое можа зрабіць рэвалюцыю **ў лячэнні рака і СНІДу:** знойдзены вучонымі фермент знішчае ў арганізме хворага адміраючыя клеткі, што дазволіць адмовіцца ад такіх метадаў, як радыяцыйнае апраменьванне і хіміятэрапія.

● Стыхійнае бедства, ад якога ў пачатку жніўня пацярпеў Лельчыцкі раён, нанесла **ўрон,** памер якога **ацэньваецца ў 178 мільярдаў рублёў.**.

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Мытня дае «дабро» і... перагінае палку?

### Шчодрасць мытнікаў часам абарочваецца трыльённымі сумамі неспагнаных плацяжоў у бюджэт

**У папярэднім нумары «Звязды» мы пачалі гаворку аб выніках праверкі Кантрольнай палатай Беларусі мытных органаў, аб якіх ішла размова на пасяджэнні Савета Кантрольнай палаты ў сераду. Пры ўсёй павазе да нялёгкай працы нашых мытнікаў, якіх на кожным кроку спрабуюць падмануць (каму ж даспадобы ў поўнай меры плаціць пошліны?), на жаль, трэба канстатаваць, што яны даволі часта трапляюць на «вуду» зацікаўленых у гэтым суб'ектаў. Ці то прафесіяналізму ім не хапае, ці то абыякавасць падводзіць. Іншыя тлумачэнні гэтаму шукаць неяк і не хочацца.**

Як бы там ні было, але менавіта дзякуючы хібам, якія часам дапускаюць мытнікі, бюджэт рэспублікі не папаўняецца даволі значнымі сумамі даходаў. І хоць фактаў, якія сведчаць аб гэтым, на савеце Кантрольнай палаты прыводзілася шмат, мы аддадзім перавагу найбольш яскравым.

У мінулым годзе, напрыклад, калгас «Маяк» Магілёўскага раёна «надуў» бюджэт на 158.038.750 рублёў мытнай пошліны. Што для гэтага спатрэбілася, дык гэта толькі выкарыстаць бескантрольнасць з боку Магілёўскай мытні. У 1995 годзе калгас завёз з Польшчы, Ірландыі і Нарвегіі 154,7 тоны свежамарожанай скумбрыі і селядцоў агульным коштам 1095,1 мільёна рублёў і ў грузавых мытных дэкларацыях заявіў рэжым актыўнага ўдасканальвання. І парушыў яго, рэалізаваўшы 147,5 тоны рыбы на тэрыторыі рэспублікі, не заплаціўшы пры гэтым мытнай пошліны.

Дарэчы, з не меншым поспехам дзейнічалі і некаторыя замежныя інвестары, якія выкарыстоўвалі Закон «Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» у сваіх мэтах. Згодна з ім, маёмасць, сыравіна і матэрыялы, якія ўвозяцца замежным удзельнікам для фарміравання статутнага фонду прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі, вызваляюцца ад уплаты мытнай пошліны. Для выкрутлівага розуму знайшлося поле дзейнасці: з'явіліся інвестары, якія заяўлялі вялізныя сумы статутных фондаў ствараемых імі прадпрыемстваў, увозілі хадавыя тавары пад выглядам папаўнення статутнага фонду, але рэалізоўвалі іх у парушэнне заяўленага мытнага рэжыму без унясення ў бюджэт значных сум мытнай пошліны і іншых падаткаў. Заўважым: на гэтым некаторыя з іх інвестыцыйную дзейнасць у рэспубліцы і заканчвалі.

Толькі некалькі прыкладаў. Замежнае прадпрыемства «Ард-Плюс». У якасці ўкладу ў статутны фонд нямецкі інвестар заявіў легкавыя аўтамабілі, былыя ў карыстанні, на агульную суму 240 тысяч долараў. Нягледзячы на тое, што мытны кошт першай партыі ўвезеных аўтамабіляў быў яўна заніжаны, сума льгот па мытнай пошліне склала амаль 118 мільёнаў рублёў. Грошыкі, як кажуць, «плакалі».

А вось замежнае прадпрыемства «Дакота Файнэншнл» наогул знікла пасля ўдала праведзенай аперацыі. У мінулым годзе прадпрыемства ўвезла з Польшчы і Чэхіі, зноў-такі быццам бы для фарміравання статутнага фонду, офісную мэблі агульным коштам каля 120 тысяч долараў і спыніла сваю легальную фінансава-гаспадарчую дзейнасць. Дзе яно знаходзіцца зараз — невядома.

Мільярды рублёў дзяржава страціла на гарэлцы: суб'екты гаспадарання куплялі за СКВ гарэлку і іншыя спіртныя напоі ў вытворцаў, афармлялі мытныя дэкларацыі ў рэжыме экспартнай пастаўкі (што вызваляла іх ад уплаты акцызаў), але ў парушэнне гэтага не вывозілі іх за межы тэрыторыі мытнага саюза, ухіляючыся тым самым ад унясення ў бюджэт краіны значных сум акцызаў. Забягаючы наперад скажу, што ні адна юрыдычная ці фізічная асоба так і не была па стану на 1 чэрвеня прыцягнута мытнымі органамі да адказнасці.

Каб адчуць усю грандыёзнасць «гарэлачнага махлярства», звернемся да вынікаў праверкі таго ж Полацкага вінзавода. Ім у верасні—снежні 1995 года было адгружана на Украіну і Малдову больш чым 129 тысяч бутэлек «Рускай» гарэлкі на звыш 80 тысяч USD, правоз якіх праз прыгранічныя мытныя пункты не пацверджаны. З атрыманых Полацкай мытняй адказаў ад калег з Украіны і Малдовы ўстаноўлена, што многія фірмы, у адрас якіх адпраўляліся вінна-гарэлачныя вырабы Полацкага вінзавода, не існуюць ці дагавораў на набыццё гурэлкі не заключалі.

Такое ж становішча выяўлена і ў Гродзенскай вобласці, дзе непацверджаны вываз за межы рэспублікі звыш 1,5 млн. літраў алкагольных вырабаў і каля 99 мільёнаў штук цыгарэт агульным коштам звыш 2,3 млн. долараў. Прынамсі, сума недаўнесеных у бюджэт акцызаў толькі па гарэлцы склала каля 27 мільярдаў рублёў.

І, бадай, самы буйны пралік, які ўдалося «раскапаць» кантралёрам палаты, датычыцца адтэрміноўкі па мытных плацяжах, прадастаўленай дзяржаўнаму гандлёва-экспазіцыйнаму прадпрыемству «Гандальэкспа», умовы якой парушалі патрабаванні ўказа Прэзідэнта Беларусі.

Не паглыбляючыся ў дробязі, адзначым толькі, што на 7 мая гэтага года сума неспагнаных мытных плацяжоў па грузах, увезеных «Гандальэкспа» на тэрыторыю Беларусі за час прадастаўленай адтэрміноўкі і аформленых толькі на Полацкай мытні, склала 3051,06 млрд. рублёў, што дасягае агульнай сумы ўсіх мытных даходаў, атрыманых мытнымі органамі на працягу 1995 года і пералічаных у дзяржаўны бюджэт. Што і казаць, шчодрасць па нашым часе проста незвычайная. Праўда, уласныя кішэні шчодрых мытнікаў у дадзеным выпадку не пацярпелі. А вось «кішэня» краіны, магчымасці якой, на жаль, як мы ўжо пераканаліся, не бязмежныя, пацярпела. Аднак, відаць, хтосьці гэтага не ўсведамляе. Мала прыемнага і ў тым, што звычка пастаянна вучыцца на сваіх памылках глыбока ўкараняецца ў галовы беларусаў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## Падыходы да вырашэння чарнобыльскіх праблем будуць зменены

**«Чарнобыльскае пытанне — напалову палітычная праблема», — заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў час свайго рабочага візіту на Беларускі цэментны завод. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, падыходы да ліквідацыі вынікаў катастрофы ў бліжэйшы час будуць зменены.**

Тэрыторыя Касцюковіцкага раёна моцна забруджана. На палі, прыгодныя для земляробства, сельскагаспадарчая тэхніка штодзённа выязджае за дзесяткі кіламетраў. Транспартныя расходы «з'ядаюць» увесь прыбытак, які вяскоўцы атрымліваюць ад рэалізацыі гатовай прадукцыі. Прэзідэнт рэкамендаваў мясцовым уладам засяліць усе чыстыя землі, стварыць малыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, своеасаблівыя філіялы калгасаў. У рэжыме жорсткай эканоміі павінны весціся і будаўнічыя работы. За кошт рэспубліканскага бюджэту будуць узводзіцца невялікія машынна-трактарныя двары і жывёлагадоўчыя фермы.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што працэс вяртання людзей у чарнобыльскую зону на абжытыя месцы пачаўся ўжо стыхійна. Задача дзяржавы — праявіць клопаты аб здароўі і быце перасяленцаў.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## Сямён Шарэцкі выступае за хутчэйшае ўступленне Беларусі ў Савет Еўропы

**Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Сямён Шарэцкі вечарам 11 верасня правёў сустрэчу з дэлегацыяй Еўрапейскага дэмакратычнага саюза — аб'яднання еўрапейскіх палітычных партый кансерватыўна-ліберальнай арыентацыі.**

Паводле слоў Сямёна Шарэцкага, нягледзячы на складанасці, беларускія парламентары зробяць усё магчымае, каб рэспубліка была прынята ў Савет Еўропы. Разам з тым ён папрасіў прадстаўнікоў Еўрапейскага дэмакратычнага саюза пасадзейнічаць працэсу хутчэйшага ўступлення Беларусі ў гэту аўтарытэтную міжнародную арганізацыю. Калі б рэспубліка была членам Савета Еўропы, падкрэсліў спікер, гэты статус абавязваў бы яе прытрымлівацца прынцыпаў і законаў, якія там склаліся.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## Кіраўнікі спецслужбаў краін СНД сустрэліся ў Віскулях

**12 верасня ў Віскулях пачала работу IV Нарада кіраўнікоў органаў бяспекі і спецслужбаў краін СНД.**

У гісторыю яна ўвойдзе як Мінская, па аналогіі з Маскоўскай, Тбіліскай і Душанбінскай. Неабходнасць інтэграцыі спецслужбаў выклікана аб'яднаннем намаганняў у барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, тэрарызмам, наркабізнесам, кантрабандай ядзерных кампанентаў. Кожная з папярэдніх сустрэч унесла свой уклад у абмеркаванне пытання аб каардынацыі сумесных дзеянняў, павышэнні іх эфектыўнасці і аператыўнага прыняцця рашэнняў. У гэтых мэтах трэба будзе стварыць Савет кіраўнікоў органаў бяспекі і спецслужбаў. Парадак дня прадугледжвае абмеркаванне вынікаў работы па далейшаму разгортванню абаненцкіх звёнаў Аб'яднанага банка даных, неабходнасць якога каментарыяў не патрабуе.

У сваім прывітанні членам дэлегацый старшыня КДБ Беларусі Уладзімір Мацкевіч адзначыў: «Нам прыемны факт правядзення гэтай нарады ў нашай рэспубліцы, паколькі ўсямернае развіццё СНД знаходзіцца ў сферы прыярытэтных інтарэсаў Беларусі. Мы, прадстаўнікі органаў бяспекі і спецыяльных службаў, павінны аб'яднаць свае намаганні для таго, каб паспрабаваць стварыць такія ўмовы для развіцця нашых краін, у якіх не знайшлі б месца ні разгул злачыннасці, ні міжнацыянальныя спрэчкі».

У гэтым і заключаецца галоўнае прызначэнне спецслужбаў, а рэчаіснасць сённяшняга дня настойліва патрабуе сумесных намаганняў для забеспячэння спрыяльных умоў эканамічнага і палітычнага інтэгравання краін Садружнасці.

Падпісанне дасягнутых пагадненняў намечана на 13 верасня.

**БЕЛТА.**

## Абрамовіч заклікае Ганчара да нейтралітэту

***З нагоды абрання Віктара Ганчара на пасаду старшыні Цэнтрвыбаркома карэспандэнт «Звязды» папрасіў выказацца яго папярэдніка, а цяпер намесніка кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі Аляксандра АБРАМОВІЧА.***

**— Аляксандр Міхайлавіч, як вы ацэньваеце факт назначэння Віктара Ганчара, якімі вы бачыце перспектывы ягонай працы?**

— Нармальна ацэньваю. Назначэнне на гэтую пасаду адносіцца да кампетэнцыі Вярхоўнага Савета. Я толькі магу, з аднаго боку — павіншаваць Віктара Іосіфавіча, з другога — паспачуваць, бо работа старшыні Цэнтрвыбаркома вельмі няпростая, яна патрабуе не толькі кваліфікацыі, але і ўмення шукаць пункты сутыкнення з тымі структурамі, якія могуць найбольш поўна і эфектыўна забяспечваць выкананне дзеючага заканадаўства. Сам, адзін, нічога не зробіш, трэба ўзаемадзейнічаць з выканаўчымі органамі, мясцовымі Саветамі. Таму, хто назначаецца на такую пасаду і мае намер працаваць з поўнай аддачай, проста не пазайздросціш...

**— Аляксандр Міхайлавіч, а з пункту гледжання прадстаўніка выканаўчай улады вы давяраеце Ганчару як спецыялісту?**

— Такіх фактаў, якія падштурхоўвалі б да гэтага, не было. Але зразумела, што Віктар Іосіфавіч быў дэпутатам, а дэпутат — з'ява палітычная, ён выказвае дакладны палітычны інтарэс. Гэты інтарэс час ад часу ўступаў у супярэчнасць з інтарэсамі іншых палітычных сіл, што натуральна і нармальна. Тут усё залежыць ад таго, як далей будуць развівацца падзеі і якім чынам будзе праведзена ім пэўная палітычная лінія. Тут ужо патрэбна не лінія палітычнага інтарэсу, а лінія нейтралітэту.

**— Такім чынам, вы заклікаеце В. Ганчара да нейтралітэту?**

— Так. Як мінімум.

**— Вы з ім ужо размаўлялі пасля яго назначэння? Аб чым?**

— Мы ўдакладнялі пэўныя пытанні. Мы ведаем, што адначасова назначаны выбары і рэферэндум. Тут ёсць істотная розніца ў тым, што камісіі па рэферэндуму ўтвараюць Саветы, а па выбарах — утвораны раней выканкомамі. Мы высвятлялі, як можна гэта спалучыць, і тут нашы погляды супалі, што трэба ініцыіраваць у Вярхоўным Савеце пытанне аб тым, каб сумясціць гэтыя камісіі, бо не могуць жа на ўчастку сядзець па дзве камісіі.

**Інтэрв'ю правёў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Беларускія палітыкі пра зварот С. Шарэцкага

**На гэтым тыдні газета «Народная воля» апублікавала Зварот да народа Беларусі Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага пад загалоўкам: «Людзі, будзьце пільнымі! У рэспубліцы запахла фашызмам!» У гэтай публікацыі Сямён Шарэцкі прама заяўляе аб схільнасці Аляксандра Лукашэнкі да дыктатуры, і зазначае, што прапанаваны Прэзідэнтам праект Канстытуцыі з'яўляецца прававой асновай для такога вось дзяржаўнага ўладкавання. Публікацыя насычана многімі непрыемнымі для Аляксандра Лукашэнкі і яго акружэння ацэнкамі, фактамі, разважаннямі. Карэспандэнт «Звязды» папрасіў пракаменціраваць гэтую публікацыю некалькіх вядомых палітыкаў як з боку Вярхоўнага Савета, так і з боку прэзідэнцкай адміністрацыі.**

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль НОВІКАЎ:**

— Я нармальна ацэньваю гэты артыкул, мы працуем з Сямёнам Георгіевічам разам і я падтрымліваю яго. Гэта яго асабісты зварот як кіраўніка заканадаўчай галіны ўлады.

**— Ці не лічыце вы, што абвінавачанні ў фашызме ўсё ж празмерныя?**

— Я не думаю, што гэта нейкае перабольшанне дзеля эфекту. Гэта асабістая справа аўтара, як падаваць матэрыял, якім быць эмацыянальнаму зараду і г. д. У мяне крыху іншы стыль, у яго вось такі. Я не мяркую, што з гэтай нагоды трэба крычаць аб канцы свету, як спрабуюць падаць. Проста чалавек занепакоены.

**— Як вы думаеце, чаму Сямён Георгіевіч звярнуўся ў «Народную волю», а не ў якую-небудзь іншую газету?**

— Уся справа ў тым, што ў афіцыйныя СМІ звяртацца бескарысна. Я напісаў ужо чацвёртую просьбу на імя кіраўніка Белдзяржтэлерадыёкампаніі аб прадастаўленні тэлеэфіру для двух намеснікаў Старшыні Вярхоўнага Савета і члена Прэзідыума. Калі ў панядзелак я прасіў эфір, адмовілі, а вечарам на БТ Дудзінаў «практыкаваўся» на тэму С. Шарэцкага, у аўторак экранам уладарыў Прэзідэнт, у сераду выступаў М. Карпіевіч, які нічога не заказваў... А я ўсё звяртаюся да Г. Кісяля, але гэта сходзіць як у пясок, ніякай рэакцыі. А што датычыць дзяржаўных газет, то пазаўчора я падпісаў праект Канстытуцыі ад фракцый камуністаў і аграрыяў і выступленне С. Калякіна з яго абгрунтаваннем, але пакуль яго не друкуюць. Таму натуральна, што звяртанне ў дзяржаўныя СМІ стала бескарысным — дзейнічае інфармацыйная блакада вакол Вярхоўнага Савета.

**— Скажыце, а якая рэакцыя вакол гэтага артыкула ў парламенцкіх колах?**

— Наколькі я размаўляў з дэпутатамі, яны яго чыталі і адабраюць, няма ніякага нагнятання страсцей. Я не схільны тут да драматызацыі, адбываецца тое, чаго дабіваліся доўгія гады: дэмакратыя і плюралізм.

**— Ці сведчыць гэта, што пачалася адкрытая канфрантацыя паміж парламентам і Прэзідэнтам?**

— Не, я лічу, што ідзе нармальны працэс, працуе Вярхоўны Савет, Прэзідэнт выступіў ініцыятарам рэферэндуму, ніхто з дэпутатаў не запярэчыў яму ў гэтым. Акрамя таго, рэферэндум ініцыіраваў і другі суб'ект, які мае на гэта права, — 84 дэпутаты. Тут няма ніякай трагедыі, ніякага перавароту, ніякай канфрантацыі...

**Сяргей ПОСАХАЎ, памочнік Прэзідэнта:**

**— Як вы расцэньваеце зварот С. Шарэцкага наконт фашызму?**

— Я вось прачытаў фразу: «Угледзьцеся ў твары многіх з бліжэйшага акружэння Прэзідэнта. Хачу вас спытаць, ці можна знайсці ў іх беларускую дабрыню, адкрытасць, узважанасць...» — я прачытаў гэтую цытату з артыкула С. Шарэцкага і пытаю ў сябе: ці ёсць усё гэта ў Шарэцкага? Такая пастаноўка пытання, што ён рускі, ён не наш — гэта і ёсць фашызм, калі людзей пачынаюць дзяліць на арыйцаў і неарыйцаў, на тое, у якіх яны кашулях... Па-другое, С. Шарэцкі ўрываецца ў асабістае жыццё іншых. Якая сям'я ў Шарэцкага, я не ведаю і ведаць не хачу. І ён не мае права чапаць сем'і іншых. Гэта і ёсць фашызм і сталіншчына, тыя яшчэ анкеты з апісаннем усіх родзічаў. Такое можа прысніцца толькі ў страшным сне, калі пачынаюць вызначаць па тварах. А мне, напрыклад, твар Шарэцкага вельмі не падабаецца, але ж я не гавару аб гэтым. Я ўжо не кажу пра змястоўны бок артыкула. Толькі страшны вораг Беларусі мог пад словам «фашызм» паставіць нашу рэспубліку. Гэта ўсё прасякнута духам такога біялагічнага фашызму, чаго і Пазняк сабе не дазваляў. Гэта ўпершыню...

**— А што датычыць асноўнай думкі артыкула аб тым, што новы праект Канстытуцыі закладвае прававыя асновы для дыктатуры?**

— Тут няма аб чым гаварыць, гэта гульня ў сапсаваны тэлефон... Тут адбылося тое, чаго мы і баяліся: чалавек, які знаходзіцца ў канцы свайго жыцця, аказаўся страшна амбіцыйным. Таму цяжка тут гаварыць на ўзроўні рацыянальных аргументаў... Тысячу разоў казалі: чытайце праект канстытуцыі, паўнамоцтвы Прэзідэнта па ёй абмяжоўваюцца, узрастаюць паўнамоцтвы парламента і ўрада. Па-другое, праект адкрыты для абмеркавання, уносьце свае канкрэтныя прапановы. Паступіла і прапанова змяніць арт. 143, аб парадку фарміравання парламента, аб тым, каб у месячны тэрмін Вярхоўны Савет сфарміраваў двухпалатны парламент. Гэта здымае ўсе пытанні...

**Інтэрв'ю правёў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### БЕЗАДКАЗНАЯ ЗАЯВА СПАДАРА ШАРЭЦКАГА

Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі апублікаваў заяву, у якой палохае прыходам дыктатуры, галосіць аб адсутнасці ў краіне грамадзянскіх свабод, дзеліць грамадзян нашай дзяржавы на «карэнных» і «прыпражных», заклікае да бітваў. Для чаго? Каб нажыць капіталец на агрэсіўнай дэмагогіі, надаць сваёй фігуры палітычную важкасць, заявіць аб сваіх прэтэнзіях на пасаду кіраўніка дзяржавы?

Але ці не вельмі грубымі і небяспечнымі для лёсу беларускага народа прыёмамі карыстаецца кіраўнік парламента, які так шмат нашумеў і так мала зрабіў для краіны і людзей?

Зварот спадара Шарэцкага поўны бязглуздых выдумак. Толькі чалавеку з хворым уяўленнем могуць здацца жахі таталітарызму, аб якіх настойліва сцвярджае ў сваёй заяве кіраўнік Вярхоўнага Савета.

У краіне захоўваецца стабільнасць, свабодна дзейнічаюць дзесяткі палітычных партый і рухаў, беспераШкодна распаўсюджваюцца газеты ўсіх накірункаў, адсутнічае палітычная цэнзура.

Чаго ж не хапае спадару Шарэцкаму і тым, хто разам з ім штурхае Вярхоўны Савет на канфлікт з Прэзідэнтам? Узрушэнняў канфрантацыі, грамадзянскай вайны?

Безадказная заява службовай асобы, чый найпершы абавязак заключаецца ў захаванні міру і стабільнасці ў грамадстве, выклікае жаль.

**Прэс-служба Прэзідэнта.**

